

*магілёўскі*

# Выбар

**№ 8 Травень 2012 г.**

*Абласная Дэмакратычная Трыбуна*

# БЯСПАМЯЦТВА І КАМНІ НЕ ВЫТРЫМЛІВАЮЦЬ




Мікалай Царкоў, няпоўнагадовы палоннік блакаднага Ленінграда, які даўно з Расіі пераехаў у Чэрыкаў і які шмат год адпрацаваў тут настаўнікам, а цяпер супрацоўнічае з Крычаўскай недзяржаўнай газэтай "Вольны горад", не-не, ды спяшаеца ў свабодны дзень з кветкамі ў вёску Камаровічы. А ў ёй ідзе ці то да ананімнага ваеннага пахавання,ці то да Памятнага знаку з пералікам імёнаў – усяго тут 134 прозвішчы — тых беларусаў-насельнікаў вакольных вёсак, якія не вярнуліся з той, Вялікай Айчыннай вайны…

Мемарыял быў абсталяваны тут, у чэрыкаўскай вёсцы Камаровічы, напрыканцы 60-х мінулага ст. Раней, да чарнобыльскай бяды, якая ахланула і гэтыя мясціны, тут быў цэнтр калгаса *"Страна Советов"* і цэнтр сельсавета. Тут і вырашылі ўсталяваць Стэлу з вечным агнём пад ёй у знак павагі да землякоў, якія загінулі за Радзіму. Такім чынам на мемарыяле з'явілася і прозвішча камаровічскага земляка, Героя Савецкага Саюза Піліпа Кавалёва, бо лічылася, што магчыма ён тут і пахаваны. Але, як сцвярджаюць мясцовыя краязнаўцы, насамрэч Піліп Кавалёў пахаваны ў г.п Круглае нашай жа Магілёўскай вобласці, дзе ён загінуў у 1944 годзе… Але да мемарыяла шмат гадоў людзі прыходзілі, каб ушанаваць усіх 134 землякоў на чале, калі так можна сказаць, з Героем…

А дваццаць пяць год таму гэтыя чэрыкаўскія вёскі пасля Чарнобыльскай аварыі патрапілі ў зону адсялення. Ці не ад таго самага часу і пачалося рассыпанне помніка і забыццё. Каменчык за каменчыкам… Людзі адсюль паступова з'язджалі, кідаючы дамы і гаспадарчыя прылады, а тое – і звычайныя пажыткі. Вёска апусцела і цяпер сама нагадвае ці тое брацкую магілу, ці тое своеасаблівы памятны знак таму часу. Пра ваенны ж знак Памяці не было нікому клапаціцца, яго не забралі з сабой і нікуды не перанеслі. Вось толькі Мікалай Царкоў з сваімі сябрамі і калегамі па "Вольным горадзе" наведваецца сюды, каб памаўчаць-падумаць, але і для таго, каб нагадаць грамадству і ўладзе, што такія знакі памяці не павінны даводзіцца да стану самаразбурэння...

*(Пачатак. Заканч. на стар.2)*

# У ШКЛОВЕ ЗНОЎ КАРУПЦЫЙНЫ СКАНДАЛ



Старшыні райвыканкама сп. Бойка А.А. нялёгка прыходзіцца працаваць з такімі "дзеткамі"-падначаленымі, якіх і выгнаць з працы немагчыма (бо не ён ставіў), і хцівасць іхнюю пакуль перамагчы не ўдаецца (хто ставіў, той ад гэтага штосьці меў). Справа нават не ў тым, што гэта "прэзыдэнтскі" раён і тут усе кадры правераны часам і жорсткімі ўмовамі працы на вынік, які заўсёды задавальняе вышэйстаячае кіраўніцтва ў твары таксама шклаўчаніна спадара Лаўранкова. Дарэчы, была б у яго хоць якая сумленнасць, то не патураў бы эканамічным разбойнікам са шклоўскай дарогі і мог бы дастойна выйсці на пенсію, альбо перадаваць вопыт разбурэння эканомікі раённага маштабу ў школе маладых брсмаўцаў.

Трэба сказаць, што сартыроўка кадраў – з'ява насамрэч вельмі адказная і не такая ўжо і бяспечная, калі здарыцца даць выспятка не таму кадру. Нават калі і сам яго прыцягнуў у раён пасля скандальнага "выпіхона" з чарговай пасады за

*(Пачатак. Працяг на стар. 3)*

# БЯСПАМЯЦТВА І КАМНІ НЕ ВЫТРЫМЛІВАЮЦЬ

(Заканчэнне. Пачат. на стар. 1)

Гэта не знак разбураецца. А самая памяць людская разам з ім знікае і разбураецца Можа і не варта здіўляцца таму, што ўзгадваецца цяпер вайна і народны подзвіг часцей за ўсё падчас вайсковых парадаў і пераможных гадавінаў, на якіх ўсё менш прысутнічаюць самі ўдзельнікі і сведкі тых часоў і да якіх – жывых і мёртвых – усё менш увагі, павагі і ўдзячнасці. Яны цяпер усё часцей адрасуюцца ўладзе. А ўдзельнікі вайны і памяць аб ёй становяцца цынічнай спрыяльнай нагодай для фанфарных і занадта афарбаваных у мілітарыскія таны святкаванняў, а разам – і для дэманстрацыі "падрастаючых пакаленняў" сваёй адданасці новым генералам і іхнаму галоўнакамандуючаму. На фанфары і парады сродкаў стае. На клопат аб ветэранах, на захаванне памятных месцаў і знакаў у належным стане – не…

Але ёсць яшчэ ў нас, на шчасце, людзі, якія ставяцца да памяці іначай. На іх і надзея, што не дадуць канчаткова рассыпацца народнай памяці пра святое на каменчыкі.

*Віктар Войт*

# ПЕРАДЗ'ЕЗДАЎСКІЯ СХОДЫ СЯБРОЎ "БЕЛАРУСКАЙ АСАЦЫЯЦЫІ ЖУРНАЛІСТАЎ" АДБЫЛІСЯ Ў МАГІЛЁВЕ І ГОРКАХ




Магілёўскі і горацкі сходы такім чынам завершылі (крыху раней сход адбыўся ў Крычаве) рэгіянальную перадз'ездаўскую выбарчую кампанію дэлегатаў на VIII чарговы з'езд ГА «БАЖ».

У абласным цэнтры на падвядзенне вынікаў працы магілёўскіх сябраў БАЖ за апошнія 3 гады сабралася 17 чалавек, у Горках – пяцёра. На магілёўскім сходзе прысутнічалі намесніца старшыні БАЖ Аліна Суравец і сябра Праўлення арганізацыі Яніна Мельнікава.

Сябра Рады БАЖ Генадзь Суднік у сваёй прамове заўважыў, што большасць магілёўскіх БАЖаўцаў з'яўляюцца фрылансерамі і супрацоўніаюць з незалежнымі СМІ ў краіне і за мяжой. Яшчэ адна адметнасць магілёўскага рэгіёну – праект развіцця "малой прэсы", які на працягу ўсіх трох гадоў развіваецца ў розных рэгіёнах Магілёўшчыны.

Аліна Суравец спынілася на арганізацыйным баку дзейнасці БАЖ і на перспектывах асацыяцыі, у тым ліку на пытаннях пашырэння ўплыву на творчую моладзь. Яніна Мельнікава падвяла пэўныя вынікі кампаніі "За якасную журналістыку", а таксама распавяла пра БАЖаўскую ініцыятыву спрыяння працы фрылансераў у нашай краіне.

Колькасць удзельнікаў сходу ў Магілёве дазволіла ім абраць двух дэлегатаў на з'езд – імі сталі Генадзь Суднік і Барыс Вырвіч - рэдактар абласной незарэгістраванай газеты "Магілёўскі Выбар".

Горацкія калегі сваім дэлегатам назвалі Галіну Будную, рэдактарку недзяржаўнай зарэгістраванай газеты "УзГорак".




# ТРАДЫЦЫЯ




У гэтым годзе суботнікаў у Магілёўскім раёне было ажно тры - на працягу красавіка мы дружна наводзілі прыгажосць навакольнага асяроддзя. Гэта добра - калі навокал прыгожа. І супольная праца на свежым паветры мае свае плюсы. Але ўсе гэтыя плюсы *"праздника освобождённого труда"* перакрэслівае думка аб тым, што табе за гэтую працу (не самую лёгкую ды чыстую) ніхто не заплаціць аніякага заробку, а, наадварот, у цябе грошы забяруць. Перад суботнікам, як вядома, на ўсю краіну агучваецца лічба пла-нуемага агульнага заробку - усё гэта дзеліцца на працаўнікоў, і кожны *павінен* аддаць у тую капілку сваю частку пянёнзаў. Напрыклад, з работнікаў культуры нашага раёна збіралі па 50.000 рублёў. Відаць, самыя багатыя гэтыя работнікі. І калі раней гэтая працэдура абстаўлялася словамі *"калі ласка"* і *"па магчымасці",* то зараз робіцца ўсё проста: *"Вы абавязаны!"* Узнікае пытанне: "Каму і што мы абавязаны?" Ці не зашмат у нас пабораў — і латарэйкі па спісу, і прымусовая падпіска на тое, што чытаць немагчыма, і суботнікі вось гэтыя?.. Можа, не трэба неблагую па сутнасці традыцыю суботнікаў ператвараць у чарговы абсурд?

Дарэчы, Пастанова Савета міністраў рэкамендуе правесці суботнік на дабравольнай аснове. Але слова "ДАБРАВОЛЬНА" выглядае тут неяк дзікавата,бо мы ведаем, як усё адбываецца на самой справе.

***Антон Дубаломаў, "Справа"***

# У ШКЛОВЕ ЗНОЎ КАРУПЦЫЙНЫ СКАНДАЛ

(Працяг. Пачат. на стар. 1)

крадлівую натуру, якая не можа цярпець ні хвіліны ў сваім турботным кругазвароце “было тваё – павінная стаць маім”. Такая натура нават можа падаць у суд, каб яе аднавілі на працы, хаця па сталінскім меркам павінны былі расстраляць прама на парозе калгаснага офіса без крапатлівага суда, які, аказваецца, і сам не такі ўжо праведны ў Шклоўскім раёне пры вырашэнні асабістых пытанняў з гора-кіраўнікамі асаблівых прадпрыемстваў. Няўжо такая малая зарплата ў чыноўнікаў, што гатовы за кавалак мяса падстаўляць сваю кар’еру і лёс у цэлым за якіясці там сотню тысяч рублёў?

Нядаўна ў Шклове пацярпеў ад сваёй хцівай дзейнасці прадпрымальнік, які займаўся экспартам калійных ўгнаенняў (справа не ў прозвішчы, бо ён мог і не быць ініцыятарам здзелак). Хлорысты калій, такі неабходны шклоўскім палеткам, перапраўляўся за мяжу, не слаба папаўняючы кішэні шклоўскіх хітруноў ад прыбытковага экспарту. Хітрасць у тым, што ўгнаенні куплялісь па цане для сельгаспрадпрыемстваў, якая ў разы меней цаны экспартнай, а прадавалісь за валюту без асаблівага бухгалтарскага ўліку, бо частка ўгнаенняў была проста скрадзена асобнымі кіруючымі кадрамі.

Фасоўка экспартнага прадукта праводзілась на гарадзецкім аэрадроме, які, слава богу, яшчэ дзейнічае. Але ў нашым выпадку гэта месца дзеяння можа адыграць негатыўную ролю для цяперашніх кіраўнікоў і спецыялістаў “прэзыдэнтскага” саўгаса і не толькі.

Тыя сумы грошай, якія былі канфіскаваны ў ходзе апаратыўна-вышуковых дзеянняў (непасрэдна ў час захопу пры злачынцы, які дастаўляў “даход” ў Шклоў, знаходзілася 120 000 даляраў ЗША) і тая шырыня бізнэсу, якая суправаджала




дзейнасць прадпрымальніка, пацвярджаюць маштабы крадзяжу дзяржаўных сродкаў.

Нездарма ж раённы бюджэт у пэўнай ступені папаўняецца за лік грамадзян раёна і юрыдычных асоб у выглядзе розных спагнанняў, якія за 2011 год склалі 1 133 млн. рублёў. Прычым, даходы ад выкарыстання дзяржаўнай маёмасці ў раёне перавысілі паказчык штрафаў толькі на 60 адсоткаў. Ці мы такія нягеглыя ў вачах бессаромнай улады, ці ўлада такая бяздзейная, што нават на гатовых актывах не можа зарабіць грошай і абысціся без фінансавага гвалту. З другога боку, калі прынцыпіяльна падыйсці да сваіх абавязкаў, то паўраёна перасадзіць можна. Але ж сярод чыноўнікаў няма ніводнага апазыцыянера, адны толькі чальцы прапрэзыдэнтскай “Белай Русі” (ну і словазлучэнне!), рэдка, але пракідваюцца і чальцы БРСМ. Каго ж тады садзіцьу турму, калі садзіць, атрымліваецца, што некага. Справа ў тым, што гісторыя з угнаеннямі пачалася не ў Шклове, а ў Мінскай вобласці, дзе тады шчыраваў былы шклоўкі старшыня выканкама. Па чутках (ведаем па матэрыялах незалежнага друку), не абышлось тут без кіраўнічай ролі міністэрства сельскай гаспадаркі і нашых землякоў, якія на час атабарыліся па вуліцы імя Кірава ў Мінску. Гэта ж колькі грошай прайшло міма дзяржаўнай кішэні? А калі палічыць страты ад экспарту малака, мяса, то становіцца жудасна ад маштабаў крадзяжу ў нашай краіне і адсутнасць перспектывы ў цэлым у беларускай эканоміцы.

Але ці так ужо добра працуюць шклоўскія гаспадаркі ў сельскагаспадарчай галіне, каб раскідвацца ўгнаеннямі хай і на такую пачэсную справу, як павышэнне дабрабыту асобных кіраўнікоў? Статыстычныя паказчыкі асобных гаспадарак нам недаступны, бо з нейкай пары з’яўляюцца дзяржаўным сакрэтам. Абсурд сам па сабе, але ў краіне, якая пабудавана на падмане, хітрасці, гвалце і крадзяжы, дзе воля народа ні ў якой форме не праяўляецца, а яго думка амаль нікога з уладароў не цікавіць, гэта заканамерны стан. Але ж беларускае заканадаўства абавязуе акцыянерныя таварыствы друкаваць вынікі сваёй працы ў сродках масавай інфармацыі, чым мы і скарыстаемся ў сваім мінідаследаванні.

Возьмем, напрыклад, ААТ “Александрыйскае”, якое атрымала па выніках 2011 года 22 мільярды чыстага прыбытку.

(Заканчэнне на стар. 4)

# У ШКЛОВЕ ЗНОЎ КАРУПЦЫЙНЫ СКАНДАЛ

*(Закачэнне. Пачат. на стар. 1, 3)*

Гэта вельмі добры паказчык, на які трэба арыентавацца астатнім сельгаспрадпрыемствам раёна. Адначасова і пацвярджэнне правільнасці прэзыдэнтскай інвестыцыйнай палітыкі ў галіне жывёлагадоўлі. Але ж на шклоўшчыне бытуе думка, што чым болей грошай дзяржава ўкладае ў будаўніцтва жывёлагадоўчых памяшканняў, тым даражэй малако і больш праблем з асартыментам малочнай прадукцыі. У нас чамусьці не спрацоўвае “эфект маштабу”, які праяўляецца пры нароўванні аб’ёмаў вытворчасці і продажу. У нас увогуле эканамічныя законы працуюць так, як і ўсе беларускія законы, калі гаворка заходзіць пра штосьці перспектыўнае.

Дык вось, за 2011 год (перейдем на русский язык для лучшего понимания экономических терминов) добавочный фонд акционерного общества увеличился в 12 (!) раз и составил 730 млрд. рублей. А это означает, что безвозмездно от государства “Александрийское” за год получило 670 млрд. рублей, которые и показываются в бухгалтерском балансе в строке 430. Эти деньги пошли на увеличение внеоборотных активов (строка 110) в виде основных средств и вложения в незавершенное строительство (строка 141). Можно только удивляться деловой хватке руководителей общества, но огромные вложения требует соответствующей отдачи (согласитесь, что цифры 22 и 670 явно не равнозначны). Экономисты в оценке деятельности субъекта хозяйствования часто используют косвенные показатели, характеризующие истинную ситуацию в экономике организации. Что получается в данном случае в ОАО “Александрийское”? Мы можем исследовать всего лишь один показатель, но какой! Соотношение кредиторской и дебиторской задолжености по нормативам не должно превышать значение “2”, в противном случае мы можем говорить о состоянии банкротства организации. Белорусские государственные экономисты этот показатель подвинули до уровня “3”, но в данном случае это никакого значения не имеет, потому что в Беларуси есть районы, в которых этот показатель в целом приближается к отметке “40”. О какой эффективности в данном случае можно говорить?

Так вот, в ОАО “Александрийское” кредиторская (строка 620) задолженность превышает дебиторскую (строка 240) в 5,7 раза. Пусть это один из расчетных показателей, а оценивать деятельность субъекта хозяйствования необходимо всесторонне, но он очень симптоматичен и не зря многими экономистами рассматривается как один из главных при диагностике организации на предмет перспективы банкротства.

Такое ж становішча ў большыні сельгаспрадпрыемстваў раёна, што, дарэчы, ні ў якім разе не прыніжае адзнаку гераічнай працы нашых гаспадарнікаў. Гаворка тут аб другім – ці не занадта парушэнняў з боку розных шклоўскіх хітраванаўкіраўнікоў і што з’яўляецца для іх матывацыяй – прага да багацця ці ўсё ж тая безадказнасць сярод тасованай-ператасованай калоды злачынцаў, чаго не вельмі хоча прыкмячаць спадар Лаўранкоў?

Вось і здараецца тое, што павінна здарыцца: з усяго раёна на пляцоўку амаль пад вокнамі дырэктара сельгаспрадпрыемтсва звозяцца дэфіцытныя ўгнаенні, фасуюцца, грузяцца тэхнікай прадпрыемства (у ноч трактарыст пагрузчыка зарабляў па мільёну рублёў), адпраўляюцца ў чужую краіну з заведамымі стратамі для дзяржавы.

А можа нездарма міністр эканомікі Беларусі спадар Снапкоў прасіў прабачэнне за тое, што не



застраліўся як адказная асоба за стан эканомікі ў краіне? Каб ён ведаў усю праўду пра шклоўскія справы, можа б урад і страціў выбітнога чыноўніка, які таксама выйшаў у людзі з магілёўскай зямлі.

***Пётр Мігурскі***

## Прыватызацыя па-беларуску: Набыў калгас — выплаці 100 мільярдаў даўгоў

Еўрарадыё паспрабавала набыць гаспадарку на Магілёўшчыне.

“Калі дзесяці мільёнаў еўра ў вас няма, няма пра што гаварыць”, - адразу папярэджвае Еўрарадыё старшыня гаспадаркі “Навагарадзішчанскае” у Шклоўскім раёне Іван Ніканові́ч.

Але за калгас трэба выплаціць і крэдыты: аж 100 мільярдаў рублёў!

“Каля 100 мільярдаў узялі крэдытаў, мільярд заплацілі, засталося 99. Мы ж 3 новыя комплексы адбудавалі на 6 тысяч пагалоўя ската. Гэта ж не жарты!”, - тлумачыць Іван Ніканавіч.

Ну і які дурань захоча набыць гаспадарку на такіх умовах?Агулам на Магілёўшчыне прадаюць аж 7 такіх гаспадарак!

# ХТО Ў НАС "ПЯТАЯ КАЛОНА"...

Неяк іду і бармачу сабе пад ногі: "Ён хату пакінуў, пайшоў ваяваць..." А з-за таго ўспомнілася песня, што сустрэў на вуліцы даўняга знаёмца, які цяпер зарабляе ў Расеі. Так што недакладная для нас знакамітая песня. На шчасце, наш браток-беларус хату пакінуў не для таго, каб ваяваць. У нас на той матыў іншы куплет:

"Беларус хату пакінуў,
Каб у Расеі рублі зарабляць,
Бо неяк патрэбна
Сямейны бюджэт папаўняць".

Гэтыя радкі нарадзіліся ў маёй галаве таму, што сэрца баліць за нашых землякоў-беларусаў, якія вымушаныя з'язджаць са свайго кута ў далечыню ў пошуках лепшай долі...




Афіцыйны кіраўнік дзяржавы заявіў неяк, што "пятая калона" налічвае ўсяго чатыраста чалавек (гэта нас, адмарозкаў, людзей, якія асмельваюцца па-іншаму думаць). Маўляў, мы іх усіх ведаем, КДБ іх кантралюе. А з'ехала з Беларусі, па ягоных словах, усяго нейкія там паўтары тысячы чалавек.

Ну, што тут сказаць?!. Ды ў адным любым нашым раёне за апошнія год-два ніяк не менш людзей з'ехала на заробкі ў суседнюю Расею. Думаю, што з краіны – больш як мільён (чэснай статыстыкі на гэтую тэму не знайсці). І не ад сытага жыцця, як вядома, нашы суайчыннікі збягаюць з роднай краіны...

Вось нядаўні выпадак апошні, які мяне літаральна, як гаворыцца, шарахнуў. Супрацоўнік МЧС з Віцебску, аддзяжурыўшы змену на працоўным месцы, каб падзарабіць наняўся павезці беларускіх гастарбайтараў да іхнага месца працы. Адзінаццаць гадзін быў за рулём. І ў Ліпецку ўрэзаўся ў фуру, якая стаяла на абочыне. Пяць чалавек – насмерць, трое – ў рэнімацыі...У кожным раёне свае гісторыі на падобны конт. Там у Расеі хлеб для гасарбайтераў зусім нялёгкі, што і казаць. І падманваюць беларусаў нямала, а тое і гінуць там нашы хлопцы без вестак...

Так што, на мой погляд, дарэмна кіраўнік суцяшае сябе думкаю што "пятая калона" невялічкая. А мільён, які з'ехаў – не "пятая калона"? А іх таты, маці, дзеці, жонкі, браты – не "пятая калона"? А родзічы загінулых, скалечаных на заробках у Расіі беларусаў –не "пятая калона"?

Ды сёння кожны сумленны беларус, у якога сэрца баліць за сваю краіну, кляне гэтую ўладу як толькі можа. І калі б улада апусціла свой "штык" у зямлю, калі б дала свабоду слова і сходаў, калі б дазволіла палітычную апазіцыйную дзейнасць, як гэта ёсць у дэмакратычных краінах, мы б яшчэ паглядзелі, хто тут у нас насамрэч "пятая калона"...

***Павал Сямёнаў***

# ЁСЦЬ ПЫТАННЕ

Калі вы дзе пачуеце, што ў Беларусі ёсць палітычныя зняволеныя, то па фармальных падставах гэта не адпавядае рэчаіснасці. Няма ў нас "палітычных", бо няма адпаведных артыкулаў у Крымінальным Кодэксе. А вось пры Сталіне быў такі сумнавядомы артыкул 58 "Кантррэвалюцыйная дзейнасць", праз які з 1921 па 1953 гады прайшлі 3.780.000 чалавек. І з нашага раёна шмат каго па ім рэпрэсіравалі - каго растралялі, каго ў Сібір саслалі. Былі нават планы і "разнарадкі" па растрэлах ды высылках. Усё было. .. А сёння такіх жахаў няма. Сёння, калі патрабуецца захаваць стабільнасць у дзяржаве, каб не было аніякіх непатрэбных розгаласаў і каб ніхто не выторкваўся з агульнага і дружнага шэрагу, пачынаюць працаваць Адміністрацыйны ды Крымінальны кодэксы. Былыя кандыдаты у прэзідэнты Андрэй Саннікаў, Мікалай Статкевіч, Дзмітрый Вус і яшчэ некалькі чалавек атрымалі

*(Пачатак. Законч. на стар. 8)*

# У КРАСНАПОЛЬСКІМ РАЁНЕ ЛЮДЗЕЙ ПРЫВУЧАЮЦЬ ПРАЦАВАЦЬ БЯСПЛАТНА

У Краснапольскім раёне Магілёўскай вобласці працаўнікі арганізацый і прадпрыемстваў у красавіку адпрацавалі бясплатна на родную дзяржаву аж тры дні. Пра тое, ці хацелі гэтага людзі, у іх ніхто нават не запытаўся.

Між тым палажэнні Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь пакуль ніхто не адмяняў. Артыкул 41 Канстытуцыі забараняе прымусовую працу, "акрамя працы або службы, якая вызначаецца прысудам суда або ў адпаведнасці з законам аб надзвычайным і ваенным становішчы" , а Артыкул 42 гарантуе асобам, якія працуюць па найму, "справядлівую долю ўзнагароджання ў эканамічных выніках працы ў адпаведнасці з яе колькасцю, якасцю і грамадскім значэннем, але не ніжэй за ўзровень, які забяспечвае ім і іх сем'ям свабоднае і годнае існаванне".

14 красавіка ў Караснапольскім раёне быў праведзены раённы суботнік, на якім прадстаўнікі ўсіх арганізацый і прадпрыемстваў раёна па заданні райвыканкама займаліся добраўпарадкаваннем гарадскога пасёлку і сельскіх населеных пунктаў.

Пасля райвыканкам прыняў рашэнне правесці 16 красавіка ў Краснапольскім раёне Дзень бязвыплатнай працы:

"У Дзень бязвыплатнай працы работнікі прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў усіх формаў уласнасці, індывідуальныя прадпрымальнікі працуюць на сваіх працоўных месцах, а сярэднядзённы заробак пры добраахвотнай іх згодзе пералічваецца бухгалтарамі на разліковы рахунак Краснапольскага райвыканкама", - паведамляецца ў рашэнні раённых чыноўнікаў.

Сродкі, сабраныя такім чынам з працоўнага насельніцтва раёна, будуць таксама выкарыстаныя "для правядзення працы па добраўпарадкаванні г.п. Краснаполле". Аднак пра "добраахвотную згоду" ніхто ў людзей не запытаўся.

У суботу 21 красавіка ўсе працаўнікі Краснапольскага раёна ў абавязковым парадку прынялі ўдзел у рэспубліканскім суботніку. Заробленыя сродкі, зноў жа, былі падзелены паміж рэспубліканскім і мясцовым бюджэтамі.



*Краснапольскі райвыканкам*

"Канешне, людзі абураюцца ў прыватных гутарках, - кажа адзін з жыхароў Краснапольскага раёна. – Аднак неяк выказаць свой пратэст галосна не адважваюцца, баяцца згубіць працу".

Між тым заробкі працаўнікоў у Краснапольскім раёне знаходзяцца на вельмі нізкім узроўні, сярэдняя налічаная заработная плата за студзень-люты склала толькі 2063,3 тысячы рублёў ( 92,4% да адпаведнага перыяду мінулага года). Аднак мясцовыя ўлады больш хвалюе не пытанне павелічэння заробкаў, а тое, як ад гэтых заробкаў яшчэ адабраць грошай - на ліквідацыю ўласных недапрацовак.

***Іван Барысаў***

# РАСПРОДАЖ

У Магілёўскай вобласці могуць быць вы-стаўлены на продаж кантрольныя пакеты адразу сямі сельскагаспадарчых прадпрыемстваў. Яны ўнесены ў абласны план прыватызацыі на 2012 г.

У мясцовых уладаў з'явілася жаданне знайсці ін-вестара на сельгасугоддзі Магілёўскага, Бабруйскага, Горацкага, Клімавіцкага. Мсціслаўскага і Шклоўскага раёнаў.

На конкурсныя таргі, у прыватнасці, плануецца выставіць 99,9% акцый ТАА "Барок-агра" - гаспа-даркі Магілёўскага раёна, якое спецыялізуецца на вытворчасці зерневых, зернебабовых, а таксама свіней.

Трэба адзначыць, што менавіта ў Магілёўскай вобласці створаны буйнейшыя ў краіне прыватныя аграпрамысловыя холдзінгі. Уладальнікам аднаго з іх, "Сервалюкс", які таксама месціцца ў Магілёў-скім раёне і спецыялізуецца на птушкаводчым накірунку, з'яўляецца Яўген Баскін.

### У працяг тэмы

Каб падоўжыць жыццё закінутых беларускіх вёсак, улады гатовы іх аддаваць інвестарам, у тым ліку і фізічным асобам, пад турыстычныя аб'екты амаль за так — абы толькі людзі імі займаліся. Аб гэтым паведаміў намеснік міністра спорту і турызму Чэслаў Шульга.

Сёння ў Беларусі досыць шмат вёсак, у якіх не жыве ніводнага чалавека. Зараз ідзе праца над тым, каб знайшліся людзі, якія, няхай за адну базавую велічыню (100.000 рублёў), маглі выкупіць гэ-тыя вёскі і адбудаваць іх пад турыстычныя патрэбы. Пры жаданні інвестары могуць узяцца не толькі за закінутыя, але і за дзеючыя вёскі. Як гэта, напры-клад, зрабіў адзін з беларускіх бізнэсменаў, які за-рабіў свой капітал у Ленінградскай вобласці і ў Пружанскім раёне выкупіў усю вёску, дзе жыла яго ма-ці, зрабіўшы там турыстычны і спартыўны комплексы.

***Міхась Баразна, "Справа"***

*ПРЫВАТНЫ ПОГЛЯД*

# З ЧАГО ПАЧЫНАЕЦЦА КУЛЬТУРА

… Вялікае, як вядома, бачыцца здалёк. Ну, а дробязі, зыходзячы з адваротнага – гэта тое, што ў нас на выцягнутую руку. То бок гэта тое, з чаго ўласна і складаецца наша жыццё. І калі гэтыя дробязі… як бы тут памягчэй?.. хрэновыя, то атрымоўваецца, што і жыццё наша такое ж самае.

Часцяком прыходзіцца назіраць незацейлівую карцінку, хоць кіно здымай: шпаркімі крокамі падыходзіць малады чалавек да пад'езду, наклейвае аб'яву "Вокны, дзверы" і гэтак далей і пашпарыў да другога пад'езду. Тут жа услед за ім бяжыць дзяўчына, таксама падыходзіць да паде'зду, зрывае тое, што наклеіў хлапец (канкурэнцыя пабеларуску!) і прышпандорвае абвестку пра нешта іншае. Яшчэ праз некаторы час з'яўляецца самая галоўная дзючая асоба – дваровая прыбіральшчыца. Яна адказвае за тое, каб побач з домам і вакол была чысціня. Не абмінае і тое, што наклеена на дзверах пад'ездаў. У выніку – усё, што наклеена, ляціць пад мятлу і далей у сметніцу… Але цяперашні клей гэта вам не размякчэлы камячок хлеба. Не так і лёгка адарваць наклеенае. А таму нейкія абрыўкі, ашмёткі застаюцца на дзверах. Ну, і гэтая непрыгожая карціна бачыцца ажно здалёк. Не знаю як каму, а мне гэтая карцінка зусім не падабаецца. Таму разам з суседам мы прыстасавалі побач з дзвярыма, на сцяне абвестачную дошку з дсп. Цяпер расклейшчыкі збольшага карыстаюцца ёй, а дзверы нашы пакінулі ў спакоі. Стала і чысцей, і прыгажэй.




Але радаваліся мы і іншыя суседзі нядоўга. У нашым Чэрыкаве адбылася выязная ісесія абласнога савета. Перад тым, як прынята, нейкая камісія аббегала ўсе двары, нашу дошку садралі (бо не прайшла зацверджання ці што?!), праўда, і пад'ездныя дзверы памазюкалі. Бо колькі таго часу прайшло, а фарба ўжо трэскаецца і лупіцца кускамі. Бо на больш працяглы тэрмін і не было задумана, а таму і фарба дзяшовая, і мазалі абы як.

Усё вярнулася на кругі свае. Праўда, камунальнікі ў двары ўсталявалі Дошку аб'яў. Не магу зразумець чаму, але ёю ніхто не карыстаецца па прызначэнні, паранейшаму "абвестачнікі-расклейшчыкі" карыстаюцца нашымі дзвярыма…

Дробязь? Безумоўна, але мне думаецца, што ў такіх дробязях бачна наша сапраўдная культура, а не тая, што дэманструецца ўдзельнікам выязной сесіі. Або яшчэ большаму начальству падчас розных "высокіх візітаў". Гэта ўвайшло ў звычку, а захаванне штодзённай прыгажосці і парадку звычкай у нас, на жаль, яшчэ не стала.

***Сямён Панізоўцаў***



# МУЗЫКА Ў ТУРМЕ І БЕЗ ГІТАРЫ

Музыка з Асіповічаў Ігар Сімбіроў напрыканцы красавіка звярнуўся ў КДБ наконт пытання, калі ён зможа атрымаць адказ на свой зварот да старшыні КДБ Беларусі Зайцава, зарэгістраваны ў аддзеле па зваротах грамадзян яшчэ 19 сакавіка. Супрацоўніца аддзела па зваротах грамадзян Цэнтральнага КДБ спадарыня Ракевіч адказала музыку, што пытанне было разгледжана на самым высокім узроўні і вырашана перапіску з Ігарам Сімбіровым спыніць. Таксама яна параіла музыку для вырашэння праблемы звяртацца ў суд.

" Яшчэ 19 сакавіка я зарэгістраваў у аддзеле па зваротах грамадзян Цэнтральнага КДБ у Мінску пісьмовую скаргу на дзеянні старшыні ўпраўлення КДБ па Мінску і Мінскай вобласці Калача У. В., якую я напісаў на імя старшыні КДБ Беларусі Зайцава, - кажа Ігар Сімбіроў. – Я скардзіўся наконт таго, што ўжо год і тры месяцы супрацоўнікі КДБ не вяртаюць мне мае асабістыя рэчы, - гітару, нэтбук і прыватныя дзённікі, а таксама не адказваюць на пісьмовыя звароты. Прайшло больш за месяц пасля гэтай маёй скаргі ў Цэнтральны КДБ і зноў жа я ніякага адказу не атрымаў. Таму 25 красавіка я патэлефанаваў у аддзел па зваротах грамадзян Цэнтральнага КДБ, каб высветліць пытанне, ці даслалі мне адказ. Супрацоўніца гэтага аддзелу спадарыня Ракевіч адказала мне па тэлефоне, што пытанне разглядалася на самым высокім узроўні і вырашана ўсялякую перапіску са мной спыніць. На мае пярэчанні яна параіла мне звяртацца ў суд і паклала трубку".

Пасля гэтага музыка спрабаваў высветліць, чаму з ім ня хочуць размаўляць наконт яго ўласных рэчаў яшчэ па двух тэлефонных нумарах у Камітэце дзяржаўнай бяспекі.

*(Пачатак. Заканч. на стар. 8)*

## МУЗЫКА Ў ТУРМЕ І БЕЗ ГІТАРЫ

(Заканчэнне. Пачат. на стар. 7)




*Ігар Сімбіроў*

" Я патэлефанаваў супрацоўніку прэс-службы КДБ спадару Антановічу, які адказаў, што гэта пытанне не яго кампетэнцыі і паклаў тэлефонную трубку, - распавядае Ігар Сімбіроў. – Пасля пазваніў на тэлефон даверу КДБ, там супрацоўнік наогул нечага перапужаўся, адказаў "я каментароў не даю" і таксама кінуў трубку".

Зараз музыка з Асіповічаў не бачыць іншай магчымасці дабіцца справядлівасці, акрамя звароту ў суд.

" Буду з дапамогай праваабаронцаў рыхтаваць неабходныя дакументы і падаваць пазоў у суд на дзеянні супрацоўнікаў КДБ, іншага выйсця я проста не бачу", - кажа Ігар Сімбіроў.

Аднак падрыхтаваць пазоў у суд наконт дзеянняў супрацоўнікаў КДБ Ігар Сімбіроў так і не здолеў. 26 красавіка музыку затрымалі на Мінскім чыгуначным вакзале, калі ен прыехаў з Асіповічаў на «Чарнобыльскі шлях». Праз тэлефон ен паведаміў, што пры затрыманні яго збілі. Міліцыянты склалі пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні, Сімбірова звінавацілі ў дробным хуліганстве і непадпарадкаванні супрацоўнікам міліцыі. Суддзя Кастрычніцкага суда Мінска Наталля Пратасавіцкая асудзіла актывіста на дзесяць сутак арышту.

Вось так у нас абыходзяцца з тымі, хто хоча паскардзіцца на дзеянні супрацоўнікаў КДБ…

*Багдан Іваноў*

## І КАГО ЁН ТАК БАІЦЦА?

Такое пытанне задавалі жыхары гарадскога пасёлка Круглае пасля апошняга наведвання мястэчка кіраўніком краіны Аляксандрам Лукашэнкам 25 красавіка.

"Я добра памятаю, калі Аляксандр Рыгоравіч прыязджаў у Круглае мінулы раз у 1998 годзе, - дзеліцца ўражаннямі адна з жыхарак гарадскога пасёлка. – Тады ён свабодна выходзіў к людзям, размаўляў, нікога не баяўся, ды й аховы столькі не было. Зараз жа загадвалі не адчыняць вокны і наогул завешваць іх фіранкамі. Пакуль не праехаў прэзідэнцкі картэж, людзей нават не пускалі перайсці праз вуліцу. Да народа Лукашэнка так і не выйшаў, размаўляў толькі з чыноўнікамі. І каго ён так баіцца?

А колькі часу наводзілі "паказуху" перад яго прыездам"…

Сумна, калі кіраўнік краіны баіцца ўласнага народа…

*Ірына Беганкіна*

## ЁСЦЬ ПЫТАННЕ

(Заканчэнне. Пачат. на стар. 5)

рэальныя тэрміны турэмнага зняволення за *"арганізацыю беспарадкаў"*. Хоць тыя мінскія "беспарадкі" 19 снежня 2010 года былі даволі цікавыя: некалькі чалавек ломяцца ў дзверы Дома Ўрада, унутры забарыкадзіравалася міліцыя і не дае праходу; тут жа побач ланцуг міліцыянтаў у поўнай амуніцыі з цікавасцю назірае за гэтым ціскам на дзверы і нічога не робіць; кандыдат у прэзідэнты Рымашэўскі пачынае адцягваць хуліганаў ад дзвярэй, звяртаецца за дапамогай да маўклівых стражаў парадку і атрымлівае ад іх дубінкай па галаве; тут жа дубца атрымліваюць і Саннікаў, і Кастусёў, і шмат хто яшчэ. На гэтым "беспарадкі" і скончыліся. І пачаліся судовыя працэсы - па крымінальным артыкуле Кодэкса. А калі працуе крымінальны артыкул, то асуджаныя лічацца крымінальнікамі, а не "палітычнымі". Тут трэба чотка аддзяляць, так мовіць, *"мух ад катлет"*.

А яшчэ цікавей адбываецца ў больш "лёгкіх" выпадках, калі *"хуліганку шыюць"*. Вось, напрыклад, выйшаў той жа Рыгор Кастусёў у касцюме з гальштукам (як ён звычайна ходзіць) з пад'езда свайго дома ў Магілёве — да яго падышлі, узялі пад ручкі, завезлі ў міліцыю і саставілі пратакол аб тым, што ён, выйшаўшы з пад'езда, тут жа прысеў на чупышкі і пачаў *"гадзіць"*. І пайшоў Кастусёў за гэта на пятнаццаць сутак. Вось і ўсё: хуліган! Якая тут палітыка? Няма ў нас аніякіх палітузнікаў!..

… Добра, што перад Вялікаднём Андрэя Саннікава выпусцілі з турмы. Памілавалі. А зараз зірніце на гэтыя фоткі: на першай ён - кандыдат у прэзідэнты, прафесійны дыпламат, Надзвычайны і Паўнамоцны пасол. А на другой - таксама ён, але прайшоўшы турэмныя універсітэты ад самага пачатку, ясна усведамляючы, што без віны вінаваты. Вось такі адказ на пытанне.

*Алесь Сувораў, "Справа"*




магілёўскі Выбар

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі

Адрас рэдакцыі: Магілёўская воб, аг-к В. Машчаніца, вул. Савецкая, д.4. Тэл. 8 - 0259 204 308, e-mail: Boris152@gmail.com. Выдавец Міхайлаў Іван Барысавіч. Наклад: 299 асобнікаў, фармат А-4. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 07.05.2012 г. у 20-00.